## Пётр Краўчанка запэўніў: абараняць беларускасць у парламенце будзе каму

Вядомы ў нашай краіне чалавек, былы міністр замежных спраў Пётр Кузьміч Краўчанка ўпэўнена атрымаў перамогу (за яго прагаласавала, нягледзячы на шалёную контрпрапаганду, 61,2 працэнта выбаршчыкаў у другім туры) на выбарах у Вярхоўную Раду Рэспублікі Беларусь у Маладзечанскай Паўднёва-Заходняй акрузе. Ён даў інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды», дзе асабліва адзначыў, што ў часе падрыхтоўчай кампаніі не хаваў ад выбаршчыкаў ні свайго мінулага, ні прыхільнасцей да нацыянальнага Адраджэння. «Калі трэба, — зазначыў ён, — выкарыстоўваў і двухмоўе, але ў асноўным мае перадвыбарчыя сустрэчы праходзілі на беларускай мове». «Ад сваіх адраджэнскіх пазіцый, — сказаў Пётр Краўчанка, — я ніколі не адмаўляўся, я веру ў Беларусь як у суверэнную незалежную дзяржаву, я быў міністрам замежных спраў дзяржавы, а не, прабачце, Паўночна-Заходняй вобласці. Мне вельмі спадабалася, што ўзважаны адраджэнскі падыход у Маладзечне ўспрымаўся нармальна». На пытанне карэспандэнта, хто будзе цяпер бараніць у Вярхоўнай Радзе беларускую мову, культуру, Пётр Краўчанка запэўніў, што ва ўсякім разе дэпутаты ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады будуць выступаць на беларускай мове. А ўвогуле, падкрэсліў ён, мы разлічваем, што сярод незалежных дэпутатаў, сярод прадстаўнікоў іншых партый ёсць свядомыя беларусы, адукаваныя, эрудзіраваныя людзі, якія могуць стаць нашымі патэнцыяльнымі саюзнікамі».

«Няма такога паняцця, як прэзідэнцкая ці парламенцкая знешняя палітыка, — падкрэсліў таксама Пётр Краўчанка. — Палітыка гэта павінна быць нацыянальнай, дзяржаўнай... Калі Беларусь стане сапраўднай дзяржавай, жыццё само сфармулюе тое, што адпавядае інтарэсам нацыі...».

Калектыў рэдакцыі «Нашага слова» сардэчна віншуе Пятра Кузьміча Краўчанку, шчырага і актыўнага сябра Таварыства беларускай мовы, з абраннем у склад новай Вярхоўнай Рады Рэспублікі, жадае яму здароўя і поспехаў у вялікай працы на карысць вольнай дэмакратычнай Беларусі.

## *Мы ўсе нашчадкі беларускіх патрыётаў*

Паважаны рэдактар!

У газеце «Наша слова», №50 ад 13 снежня 1995 года быў надрукаваны артыкул А.Мікалайчанкі «Святыні трэба шанаваць».

У ім вельмі аб'ектыўна пададзена інфармацыя аб памятных мясцінах, звязаных са Слуцкім збройным чынам 1920 г. Паміж іншым, аўтар публікацыі ўзгадвае прозвішча камандзіра 1-га Слуцкага палка паўстанцаў капітана Анцыповіча. Мушу зазначыць, што аб гэтым патрыёце Бацькаўшчыны, як і аб усім паўстанцкім кіраўніцтве, недастаткова звестак і звязана гэта з тым, што даследчыкі гэтай тэмы не маюць магчымасці карыстацца калісьці «закрытымі» і да цяперашняга часу не «раскрытымі» архіўна-дакументальнымі крыніцамі. Я ўдзячны сп. А.Мікалайчанку за абнародаванне пэўнай часткі інфармацыі, якую мне ўдалося сабраць на Случчыне пра капітана Анцыповіча. Але мушу зазначыць , што ён не з'яўляецца маім прапрадзедам, як памылкова пададзена ў згаданай публікацыі.

Думаецца, што не толькі я, але і ўся нацыянальна свядомая частка насельніцтва Беларусі з гонарам паважае сябе за нашчадкаў і герояў Слуцкага збройнага чыну.

**З павагай**

**Мікола АНЦЫПОВІЧ.**

**16 снежня 1995 г.**

# Жыло-было слова на блакітным экране

***Доўгі час на Беларусі адзіным сродкам пашырэння літаратурнай мовы, літаратурнага слова быў друк. У 1925 годзе далучылася радыё, а з 1955-га за пашырэнне літаратурнай мовы ўзялося яшчэ і тэлебачанне.***

***Сёлета Беларускае тэлебачанне святкуе першыя сорак гадоў з часу свайго заснавання. Амаль сямнаццаць гадкоў на блакітным экране сярод разнастайных і шматлікіх праграм праменілася, мела сваю ячэйку і перадача «Роднае слова». Таму натуральная цікавасць нашай газеты да гэтай перадачы ў юбілейныя для нашага тэлебачання дні.***

*Я скажу, што Беларускае тэлебачанне распачынае добрую справу. Ад адной назвы — «Роднае слова» робіцца цяплей на душы ў чалавека, які кроўна звязаны з сваім народам, жыве яго інтарэсамі, любіць сваю родную мову...*

*І вельмі добра, што наша тэлебачанне, з яго вялікімі магчымасцямі весці плённую размову з шырокай грамадскасцю, уключылася ў гэту работу. Я сардэчна віншую работнікаў тэлебачання з пачаткам выпуску часопіса і жадаю ім поспехаў у гэтай высакароднай справе.*

Кандрат Крапіва

**Наша слова.** Спадар Содаль! Вы першы і сталы рэдактар тэлевізійнага часопіса «Роднае слова». Якая гісторыя вашай перадачы?

**Ул.Содаль.** Прыгадваецца канец студзеня ці пачатак лютага 1979 года. Неяк аднаго разу, а я тады працаваў у рэдакцыі навукова-папулярных перадач — да мяне падышоў галоўны рэдактар згаданай рэдакцыі Радаслаў Александровіч, сын паэта Андрэя Александровіча, і неяк таямніча, нібы трохі спалохана, сказаў: «Праз месяц, другі трэба распачаць выпуск перадачы пра мову. Падумай пра назву. Прыкінь план і абгрунтаванне».

Што й казаць! Прапанова была прыемная, радасная і нечаканая. Яно ж вядома, у якім загоне была наша беларуская думка ў тую пару. І вось раптам дазвол з вялікага экрана весці гаворку пра наша роднае слова. То хіба ж гэта не радасць! Адно бянтэжыла — ніхто дагэтуль не рыхтаваў такіх перадач, ні ў кога не было ніякага вопыту. Але затое была прапанова! Дзе свядома, а дзе навобмацак, пачалася падрыхтоўка да перадачы. Склаў на цэлы год план, распрацаваў канцэпцыю. Усё гэта было абмеркавана на самым высокім узроўні і ўхвалена. Пра адно я толькі прасіў — распачаць эфір з верасня. Хацелася як след усё узважыць, падрыхтавацца, зрабіць хоць які зачын. Але кіраўніцтва падганяла: хутчэй, хутчэй, хутчэй! Тлумачылі: у нашай краіне што можна сёння, заўтра ўжо будзе позна. Гэтакай жа думкі быў і Максім Лужанін, які падахвоціўся весці перадачу. На дапамогу ён паклікаў сабе вядомых нашых мовазнаўцаў Фёдара Янкоўскага, Уладзіміра Юрэвіча. З такім вось складам і выйшла першы раз «Роднае слова» ў эфір 29 красавіка 1979 года. Прывітаў «Роднае слова» таксама і Кандрат Крапіва. Тады гэта быў адзіны на Беларусі агмень, дзе гаварылася пра нашу мову, пра ўсе яе радасці і брыдоты. Гледачы прынялі перадачу шчыра. «Роднае слова» мела вялікую пошту. Кіраўніцтва камітэта таксама спрыяла. Клапацілася, і каб у добры час прайшла перадача, і каб яе паглядзела як мага больш людзей. Кожны выпуск «Роднага слова» паўтараўся. Так што кожны, хто хацеў, мог паглядзець нашу перадачу.

**Н.С.** А як пачувае «Роднае слова» сёння, у незалежнай беларускай дзяржаве, пасля так званага моўнага рэферэндуму?

**Ул.Содаль.** Лепш і не пытайцеся! Як казаў наш паэт, няма таго, што раньш было! Новаму кіраўніцтву, асабліва «апошнім часам», не да «Роднага слова». Такое адчуванне: для яго лепей было б, каб такая перадача зусім не існавала. А калі б існавала, то, як яны гавораць, без палітыкі. А як жа? Без выступу на IV з'ездзе ТБМ старшыні Вярхоўнай Рады Мечыслава Грыба? Аднак кіраўніцтва тэлекампаніі палічыла непажаданым гэты сюжэт, бо нібыта гэта не мова.

**Н.С.:** А якія гады найбольш спрыяльныя былі для «Роднага слова»?

**Ул.Содаль.** Вядома ж, 1990—1994, калі беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай. За гэтыя гады мала хто ўмешваўся ў змест перадачы, не дыктаваў. Цяпер мяне спрабуюць зноў вучыць хадзіць па адной масніцы. А я ж бачу побач злева і справа, яшчэ дзесяць масніц, і ўсе яны мае і ўсе яны для мяне. То як я магу сябе тэматычна абмежаваць, калі я разумею з'явы і падзеі значна шырэй, чым мне іх дыктуюць. Ва ўсіх сваіх учынках мы кіруемся вечнымі паняццямі, вечнымі катэгорыямі. Катэгорыямі стваральнымі, а не разбуральнымі.

**Н.С.** Якія вашыя планы?

**Ул.Содаль.** Планы ёсць. Прыкладам, у першым квартале мне хацелася б падрыхтаваць такія перадачы, як роля роднага слова ў развіцці навукі. Беларускія прозвішчы. З нагоды падрыхтоўкі аднайменнай энцыклапедыі. Запланавана перадача пра «Новы запавет» для беларусаў з нагоды новага перакладу Святога пісьма на родную мову. Даўно прапанаваў «Роднаму слову» сваю тэму доктар філалагічных навук Арнольд Міхневіч — «Колькі моў павінны ведаць беларусы». Але цяжка сказаць, ці здзейсняцца яны. Мне афіцыйна 6 снежня сказана, што з 1996 года перадача «Роднае слова» скасоўваецца.

**Н.С.** Няўжо?

**Ул.Содаль.** На жаль, гэта так. Пра гэта ўжо ўся студыя гудзе. Да мяне падыходзяць, спагадаюць, дзівяцца, абураюцца, раяць, пытаюцца, што я мяркую рабіць?

**Н.С.** І што ж Вы мяркуеце рабіць?

**Ул.Содаль.** Для мяне гэтая вестка не ёсць нечаканая. Я бачу, што ўсё да гэтага ідзе. Апошнім часам блакіраваны пэўныя тэмы, і «Роднае слова» ставіцца ў найгоршы для гледача час, з 15 да 17 гадзін, у буднія дні, калі менш верагодна, што тваю перадачу паглядзяць найперштыя, для каго яна прызначана. Ліквідаваны паўторы. А калі ты бачыш, што твая праца бязмэтная, марная, не знаходзіць падтрымкі ў кіраўніцтва, то рукі апускаюцца штокольвек рабіць далей. Гэта ўсё дэмаралізуе. Тут і самому іншы раз цяжка сябе наладзіць на працу з-за арганізацыйных, тэхнічных недарэчнасцяў. І здароўе ўжо не тое. А тут яшчэ кіраўніцтва бясконца тузае: і тое не тое, і гэта не гэта. Кожны дзень засмучэнні, шмаргаліна, стрэсы. А адкуль жа браць натхненне? Хто яго мусіць даваць нам? З гэтай нагоды я вельмі здзіўлюся: няўжо наша кіраўніцтва не разумее, колькі духоўнай сілы кладзецца на кожную перадачу, якая б яна ні была. А колькі траціцца матэрыяльных сродкаў. Лічу, што лепшыя творчыя працы, як і раней, павінны паўтарацца. Тэлевізійная перадача не газета: не прачытаў зараз, прачытаю заўтра, паслязаўтра, праз месяц, праз год. Перадача мільганула на экране і ніякага следу.

Яшчэ ж зусім нядаўна «Роднае слова» выходзіла аж чатыры разы на тыдзень. Гэта былі два арыгінальныя выхады і два паўторы. У гэтым стасунку мушу пахваліцца: мне выпала распачаць на тэлевізіі і яшчэ адну моўную праграму — «Гаворым па-беларуску». Пасля яе перадаваў іншым. Праз некаторы час перадача заглухла. Такія перадачы ў адзіночку не зробіш. Трэба рэжысёры-аднадумцы, апантаныя тым жа словам. А з гэтым на тэлевізіі найцяжэй.

**Н.С.** Дык няўжо і праўда — на тэлевізіі не будзе больш перадачы «Роднае слова»? Я аж не веру.

**Ул.Содаль.** І я не веру... Ну, хай я не гэтак раблю перадачу, як камусь гэта хочацца.., хацелася б. Але прычым сама перадача «Роднае слова»? Я не прэтэндую, на сваю вечнасць пры ёй. З прыемнасцю ўступлю «Роднае слова» маладым, маладзейшым. Тэлевізія наогул — гэта, найперш, муза для маладых. Хай яны і робяць «Роднае слова», як гэта бачыцца кіраўніцтву. Я ж інакш не магу... Я магу быць толькі такім, як ёсць, і мая перадача будзе такая, якое наша жыццё, будзе ўсё ў ім ладна, гарманічна, і перадача будзе такая. А пакуль робіцца глум з мовы, «Роднае слова» не можа маўчаць. Не я прапаную тэматыку — само жыццё. Мне кажуць: паказвайце «красоту языка», «учите языку». Але як гэтым займацца, калі ў краіне моўны пажар, моўны глум? Паміж іншым, я не думаю, што само наша кіраўніцтва прыйшло да думкі скасаваць «Роднае слова» на тэлевізіі. Чаму я так думаю? Апошні выпуск «Роднага слова» прайшоў у кастрычніку. Ён цалкам прысвячаўся вынікам моўнага рэферэндуму. Перадача была спакойная, разважная. У ёй прымаў удзел дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Аляксандр Падлужны, галоўны інспектар Міністэрства адукацыі Тамара Саўчук, настаўнікі Крашынскай школы. Усё было ўзважана. І ўсё ж, перадачу не хацелі пускаць. Тым не менш, перадача хоць і а 17 гадзіне, але ў эфір прайшла. Значыцца, тэлевізійнае кіраўніцтва, хоць і адчувала, што яго чакае пасля такой перадачы, усё ж не пакрывіла душой супраць праўды. І я ўдзячны яму за гэта. Хаця за што ўдзячны? Гэта павінна быць нормай. Але, як пісаў Максім Багдановіч, беларус спрадвеку, дзе трэба крыкнуць было: «Ратуйце», мусіў казаць: «Дзякуй». Для мяне вельмі быў важны гэты выпуск. Без выхаду яго я б не змог нічога далей рабіць, бо трэба было сказаць тое, што сказаў, а затым ісці ўжо далей. Ва ўсякім разе, у гісторыі «Роднага слова» важна было паставіць кропку. І я яе паставіў. Цяпер сваю кропку хоча паставіць кіраўніцтва.

**Н.С.** А як вы думаеце, чаму кіраўніцтва тэлекампаніі рашылася на такі крок?

**Ул.Содаль.** Не ведаю. Зараз на тэлебачанні ідзе рэарганізацыя. І я нейкім чынам падтрымліваю яе. Людзей час ад часу варта варушыць. Але каб так!..

«Роднае слова» трымалася ўсіх тых вызначэнняў, якія выкладзены ва ўстаноўчай запісцы, падпісанай кіраўніцтвам. У ёй, прынамсі, гаворыцца: «Часопіс мае на мэце асвятляць пытанні развіцця беларускай мовы, яе багацця, глыбока народнай сутнасці, сувязяў з іншымі мовамі, **непасрэдную сувязь з людзьмі і патрэбамі дня...**».

Гэтых пастулатаў і трымалася «Роднае слова» праз усе гады. Якраз гэты момант і кваліфікуюць «Роднаму слову» палітыкай. Гэта, пэўна, адна з асноўных прычын — чаму «Роднае слова» не ўключылі ў вяшчальную сетку на 1996 год.

**Н.С.** Што вы мяркуеце рабіць на тэлевізіі без «Роднага слова»?

**Ул.Содаль.** На мне яшчэ і навучальнае тэлебачанне. Так што праца пакуль будзе.

Спадзяюся, адновіцца і «Роднае слова». Мо гэтым хто іншы будзе займацца. Але і мне штокольвек ім знойдзецца. Урэшце, будзе на тэлевізіі «Роднае слова» ці не — гэта залежыць і ад гледача. Будуць патрабаваць — да іх голасу прыслухаюцца. У асноўнай канцэпцыі рэфармавання гаворыцца, што новая сетка вяшчання ідзе ад гледача: «Мы пошли от зрителя».

**Н.С.** Але ж не толькі іх меркаванні павінны ўлічвацца. Ваша перадача — старонка нашай культуры.

**Ул.Содаль.** І не толькі культуры. На заканчэнне хачу прыгадаць: «Роднае слова» паўстала да жыцця на экране з клопату колішняга старшыні Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Генадзя Бураўкіна пры падтрымцы ЦК і самога спадара Пятра Машэрава. Таму вельмі дзіўнае рашэнне кіраўніцтва цяперашняй тэлекампаніі. Скасаваць «Роднае слова» — гэта ўсё роўна, што выкінуць сімвал Беларусі. Ды яшчэ напярэдадні юбілею. І гэта ў «незалежнай» дзяржаве. Але здзіўляцца няма чаго. Усё мае пачатак, усё мае і канец. І нават калі б рашэнне кіраўніцтва было адменена, той творчы гурт, які дагэтуль самаахвярна рыхтаваў «Роднае слова», не хутка акрыяе, наладзіцца. Дый уласна ўжо гэтага гурта і няма. Яго трэба ствараць нанава.

Апошні выпуск «Роднага слова» пачынаўся і заканчваўся вядомай народнай гульнёй-песняй. У ёй адны спявалі: «А мы проса сеялі-сеялі». А паганцы на гэта казалі: «А мы проса вытапчам, вытапчам».

Так яно ўсё і адбылося. Слаўна, хоць і пакутліва, жыло на тэлевізіі «Роднае слова». Яно, як магло, з 1979 па 1995 год не давала зацягваць грамадскую моўную думку балотнай раскай. Яно было і якімсь моўным барометрам і для сваёй тэлевізіі. Што будзе далей — паглядзім. Але так не павінна быць, павінна быць інакш. А інакш — гэта лепей. Гэтак казаў яшчэ ў мінулым стагоддзі наш слаўны Францішак Багушэвіч. Яму ж належаць і словы «Наша мова нам Богам дадзена». Ён жа і засцерагаў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

То памятайма гэтыя святыя запаветы і кіруймася імі.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Слуцкаму збройнаму чыну — 75*

# Час самапазнання

На пачатку снежня сябры Нацыянальнага камітэта па святкаванні 75-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну праводзілі сваё чарговае мерапрыемства. Яны ў пасёлку Чырвоная Слабада (гістарычная назва Вызна) Салігорскага раёна ўсталёўвалі памятны крыж у гонар палеглых у барацьбе за волю і долю Беларускай Народнай Рэспублікі харобрых слуцакоў, а ў Слуцку на тым будынку, дзе праходзіў у лістападзе 1920 года з'езд Случчыны, мацавалі мемарыяльную дошку.

Тады ўвагу журналістаў прыцягнуў высакаваты пажылога ўзросту мужчына, які, быццам прафесійны карэспандэнт, усё завіхаўся каля ўдзельнікаў імпрэзаў, праводзіў здымкі .

Гэта, як потым высветлілася, быў сын камандзіра 1-й Слуцкай брыгады стральцоў войска БНР Антона Сокал-Кутылоўскага, аднаго з кіраўнікоў Збройнага чыну, — Леанід Антонавіч Сокал-Кутылоўскі.

Як бы там ні было, зазначыў ён, а часы і акалічнасці на Беларусі мяняюцца, і мы вяртаем страчаную не па нашай віне сапраўдную гісторыю сваёй краіны ды свайго народа. Вось і дачакаўся гэты чалавек: нарэшце, ягонага бацьку завуць не ворагам народа, а народным героем, нарэшце справу ягоных паплечнікаў таксама лічаць геройскай.

А што важна для ўмацавання беларускай дзяржаўнасці? Гэта, па глыбокім перакананні Леаніда Антонавіча, вяртанне да ўсіх сваіх нацыянальных каранёў — да культуры, мовы, веры, традыцый у выхаванні нашчадкаў.

Мусіць, усё сваё свядомае жыццё Сокал-Кутылоўскі-малодшы толькі тым і займаўся, што вяртаў наш народ да гістарычных каранёў; аднаўляючы такія музеі, як Адама Міцкевіча ў Наваградку, пасля ў Баранавічах, Слоніме і нават — у Данецку на Украіне, на шахце «Перадавая». І яшчэ адна біяграфічная дэталь: Леанід Антонавіч — не член КПСС, хаця прайшоў усю вайну ад званка да званка і пасля перамогі служыў у арміі тры гады. Не ўступаў, бо дзеля гэтага трэба было выракацца бацькі, «ворага народа»...

Так сёння гісторыя Беларусі вяртаецца да яе грамадзян не толькі праз агульнае веданне пра падзеі, так бы мовіць, маштабнага значэння і гучання, але і праз наша веданне аб жыццях ды лёсах асобных удзельнікаў тых падзей, памяць пра якіх яшчэ нядаўна бальшавікі рознымі спосабамі амаль знішчылі ўшчэнт ці абылгалі.



У сціплай кватэры Леаніда Антонавіча на сценах гасцявога пакоя — фотапартрэты прадстаўнікоў чатырох пакаленняў некалі славутага шляхецкага беларускага роду Сокал-Кутылоўскіх: Андрэя, Антона, Леаніда, Валерыя і Алега — прадзеда, дзеда, сына і ўнукаў-праўнукаў. Леанід Антонавіч разважае аб праблемах пераемнасці пакаленняў і робіць выснову: трэба, каб пра свае радаводы ведала не толькі патомная шляхта, але і людзі ўсіх званняў: рабочыя і сяляне, і канешне ж, інтэлігенцыя. Гэта падтрымлівае, спрыяе развіццю самапавагі, годнасці, адчуванню еднасці з нацыянальнай гісторыяй.

**— Напрыканцы снежня 1920 года рэшткі разбітых слуцкіх паўстанцаў перайшлі савецка-польскую дэмаркацыйную лінію. Як пасля гэтага склаўся лёс вашага бацькі?**

— Ён проста вярнуўся ў свой родавы маёнтак пад Ганцавічамі. А калі адбыўся канчатковы падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй — заходняя частка нашай бацькаўшчыны апынулася менавіта ў складзе Польшчы, бацька пайшоў працаваць па спецыяльнасці — ладзіць чыгуначныя масты ды іншыя збудаванні, ён быў па адукацыі інжынерам-будаўніком.

**— Пасля ўз'яднальнай акцыі Заходняй і Усходняй Беларусі ў 1939 годзе яго рэпрэсавалі?**

— Не адразу. Да 20 чэрвеня 1941 года ён усё яшчэ працаваў у Баранавічах, будаваў тамтэйшы чыгуначны вузел Баранавічы-Палескія. У Баранавіцкім Доме народнай творчасці працаваў і я, таму што бацькі мяне пасля сканчэння гімназіі вывучылі ў Баранавіцкім ліцэі гуманітарных навук. Музейная справа, мастацкае афармленне, фотасправа — вось далёка не поўны пералік тых спецыяльнасцяў, якія даў мне ліцэй... Але вернемся да 20 чэрвеня 1941 года. У той дзень і арыштавалі нас абодвух з татам. Праз дзень яго адпраўляюць па этапу ў Мардовію, у лагер для палітзняволеных. А нас — усіх родных-блізкіх Антона Сокала-Кутылоўскага — на 25-гадовую прымусовую жытку ў Сібір...

**— Але ж Вы, Леанід Антонавіч, — ветэран Другой сусветнай вайны. Дзіўна, як Вам, сыну «ворага народа», савецкая дзяржава даверыла зброю і прадаставіла магчымасць змагацца супраць фашызму?**

— Мусіць, выспела такая неабходнасць, што і намі, дзецьмі палітзэкаў, не пагрэбавалі. Праз некалькі месяцаў пасля нашай змены месца жыхарства мяне прызваў Мінусінскі ваенкамат. Якраз стваралася Польскае Войска, і мяне, хлопца, які добра ведаў польскую мову, і накіравалі ў гэтае войска. У ягоных шыхтах я і дайшоў да Берліна, вызваляючы ад фашыстаў родную зямлю.

**— А ў гэты час Антон Сокал-Кутылоўскі адбываў пакаранне ў МардЛАГУ...**

— Так, ён там без суда і следства сядзеў гадоў сем. Толькі ў 1948 годзе савецкая Феміда ўсчала афіцыйны суд. Татку «пашанцавала»: на той час у СССР смяротнае пакаранне было заменена на 25 год турэмнага зняволення. Іх яму і закаталі. Але вярнуўся ён дамоў у 1956 годзе, пасля таго як Мікіта Хрушчоў развянчаў культ асобы Сталіна. Вярнуўся хворы, абмарожаны... На той час мая мама жыла з дачкой у Польшчы (у Шчэціне). Туды і паехаў бацька... Там у 1983 годзе і скончыў свой жыццёвы шлях.

**— На якой мове звычайна размаўляў у сваім побыце Антон Сокал-Кутылоўскі?**

— Звычайна з намі, дзецьмі, у сваёй сям'і карыстаў роднае, беларускае слова. На працы — па-рознаму: з беларусамі — па-беларуску, з палякамі — па-польску, з расійцамі — па-расійску. Але самая галоўная яго ідэя была вельмі блізкая сённяшнім нацыянальным дэмакратам — адрадзіць родную культуру, не даць збэсціць польскім шавіністам беларускую мову, вярнуць народу ягоную сапраўдную гісторыю. Уласна, за гэта ён і выступіў у Слуцкім збройным чыне супраць тых, хто за спіною беларусаў раздраў на кавалкі нашу краіну.

**— Вось Вы, Леанід Антонавіч, — прафесіянал у музейнай справе. Як Вы лічыце, ці вартая памяць Антона Сокала-Кутылоўскага і яго паплечнікаў больш велічнага, больш мастакоўскага ўшанавання?**

— Я лічу, што сёння, калі наша дзяржава дэкларуе свой палітычны плюралізм, наспеў час, сапраўды, стварыць добры мемарыяльны комплекс, каб у месцах тых баёў былі пастаўлены і добрыя помнікі, утвораны музей Слуцкага збройнага чыну, запатрабаваны ў Беларусь архіў па гэтаму паўстанню з Расіі. І вуліцы не пашкодзіла б назваць імёнамі герояў-слуцакоў. Гісторыю трэба шанаваць і помніць...

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Уражанні*

# Костка ў мазгах

Сустракаюся з ім часцяком на вуліцах горада. Ён — былы вайсковец, адстаўнік, яму — за шэсцьдзесят. І кожны раз, убачыўшы мяне, з ухмылачкай на чырвоным твары, гучна, каб усе чулі, пытаецца здалёку:

— Ну, как с независимостью вашей? Натешились, да?

У яго шэрых старэчых вачах — зларадная, нядобрая, па-расійску кажучы, «поддевка». Першы раз я цярпліва, як знаёмаму, патлумачыў, што нам, беларусам, упершыню за дзвесце гадоў пашанцавала: пяць гадоў назад незалежнасць нам далася без крыві і насілля — нібы на талерцы яе паднеслі. Мусіць таму для многіх жыхароў рэспублікі — беларусаў і небеларусаў, такіх, як ён, расійцаў, тая незалежнасць была нечаканай, калі не ведаюць, добра гэта ці лепей зноў, як тым яўрэям у першым стагоддзі да нашай эры, што, вырваўшыся з рабства з Егіпта, пасля доўгіх блуканняў па пустыні, жадалі зноў вярнуцца ў рабства — да дармовай паліўкі з агульнага катла. Той адстаўнік не жадаў мяне слухаць, мае словы праляталі міма яго вушэй.

З таго часу, калі ўбачу яго на вуліцы, баюся сустрэчы. Таму як пачую здалёку ўжо знаёмае правакацыйнае пытанне:

— Как там с независимостью и самостойностью вашей?

Прахожыя азіраюцца на яго, паціскаюць плячыма. Я ўзнімаю ўгару вялікі палец, маўляў, усё ў парадку пакуль з незалежнасцю. І зварочваю ў першы завулак.

За доўгія гады пражывання ў Слуцку ён так і не навучыўся паважаць мову, звычкі, культурную спадчыну краіны, а яе сённяшняя незалежнасць для яго, чамусьці, што костка ў горле. Таму мае рацыю расійскі пісьменнік Навум Каржавін («Литературная газета», № 48, 95), калі сцвярджае, што «да гэтага часу ў краіне існуюць прыхільнікі Сталіна, а манера мышлення, паводзінаў, прынцыпы адносін з іншымі людзьмі выдаюць усіх сталіншчыкаў з галавою». Што праўда, то праўда, у нас іх таксама хапае, аб чым сведчыў і мітынг з нагоды 78-й гадавіны кастрычніцкага перавароту на плошчы Незалежнасці ў Менску, дзе партрэтаў Сталіна было бадай не менш, чым чырвоных сцягоў. Назіраў за гэтым і адразу ўспамінаў зацята-агрэсіўны твар «свайго» адстаўніка.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

*Наш каляндар*

# Ішлі ў бой за Бацькаўшчыну

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 45, 47)*

Слуцкае паўстанне 1920 года разгаралася. Актыўныя дзеянні слуцкіх паўстанцаў прымусілі чырвоныя войскі нават перайсці да абароны. Часці і падраздзяленні Слуцкай брыгады стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў ноч на 10 снежня 1920 года атакавалі непрыяцеля каля вёсак Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-га — у вёсцы Старынь. Потым быў распачаты наступ на мястэчкі Семежава і Вызна. У ноч на 13 снежня паўстанцы зноў занялі Семежава, але вымушаныя былі з боем адысці.

Польская дэлегацыя на мірных перамовах у Рызе дала дазвол часцям чырвоных заходзіць у нейтральную зону і нават на польскую тэрыторыю. Польшчы было непатрэбнае гэтае беларускае паўстанне, бо яна як раз канчаткова дзяліла беларускую зямлю з Савецкай Расіяй. Як потым стала вядома, кіраўнік савецкай расійскай дэлегацыі А.Іофэ паводле загаду У.Леніна прапанаваў Польшчы ўжо тэрыторыю Беларусі, толькі польская дэлегацыя не хацела яе ўзяць, слушна баючыся беларускага паўстання ў Польшчы.

Э.Вайніловіч, фундатар Чырвонага касцёла ў Менску, у сваіх мемуарах згадвае, што пасля баёў ля Вызны і Семежава чырвоныя войскі зайшлі далёка за лінію замірэння (г.зн. за дзяржаўную мяжу, вызначаную савецка-польскай дамовай 12 кастрычніка 1920 г.), ажно за Пузаў, пад Ёдчыцы, што было ўжо на тагачаснай польскай тэрыторыі. Ён сведчыць, што польскія войскі нават адышлі за сваю дэмаркацыйную лінію (за 15 кіламетраў ад мяжы). Зразумела, што гэта было зроблена, каб даць магчымасць савецкім войскам разграміць паўстанцаў.

Штаб Слуцкае брыгады пераехаў у вёску Морач (за 20 кіламетраў на захад ад Вызны). У наступных баях у ноч на 18 снежня атрады паўстанцаў зноў занялі Семежава, а ў наступную ноч зноў пасля бою занялі Вызну і прасунуліся на ўсход ад яе.

Сабраўшы значныя сілы, раніцай 19 снежня адзінкі Чырвонай арміі пачалі наступ, каб зліквідаваць узброенае паўстанне. У гэты ж дзень чырвонымі было адбіта мястэчка Вызна. Слуцкія паўстанцы пачалі адыходзіць на захад. Зброі і боепрыпасаў было мала. Харчаванне канчалася. 20 снежня паўстанцы былі адціснутыя да ракі Морач. У той жа дзень іх выбілі з Семежава. Штаб Слуцкай брыгады вымушаны быў перабрацца ў вёску Заастравечча (Клецкі раён) каля ракі Лань, за якой стаялі польскія войскі. Сюды збіраліся аддзелы паўстанцаў, якім была нанесена параза. Беларуская Рада Случчыны, як часовы орган улады Беларускай Народнай Рэспублікі на вызваленай тэрыторыі, прыняла рашэнне перайсці Лань, у раён размяшчэння 41-га польскага палка 28 снежня 1920 г. Слуцкая брыгада перайшла за раку Лань.

Перад самым адыходам 1-ы Слуцкі полк, які першы ўдзельнічаў у баях, за ўдзел у баях атрымаў ад Рады палкавы сцяг залацістага колеру, 2 метры даўжынёю і 1 метр шырынёю. Пасярэдзіне сцяга Пагоня 45 сантыметраў дыяметрам, а навокал яе надпіс: Першы Слуцкі полк стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі. 31 снежня на польскі бок перайшоў апошні аддзел слуцкіх паўстанцаў. Паўстанне скончылася.

Але Слуцкі збройны чын працягваўся. Са складу брыгады адзін батальён (каля 400 чалавек) са сваімі афіцэрамі на чале застаўся на Случчыне, каб працягваць баявыя дзеянні партызанскага характару. Падзяліўшыся на асобныя невялікія групы, яны разышліся па лясах і яшчэ доўгі час ваявалі.

Асноўная ж маса слуцкіх паўстанцаў была інтэрнаваная ў польскіх лагерах да канчатковага замірэння Польшчы і Савецкай Расіі (18 сакавіка 1921 года). Усе афіцэры і салдаты Слуцкай брыгады былі раззброеныя. Спачатку іх трымалі ў лагеры ў раёне мястэчка Сіняўка, потым перавялі ў лагер у Беластоку. Толькі ў траўні 1921 года іх выпусцілі з лагеру.

У гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху XX стагоддзя Слуцкі збройны чын мае выключна важнае значэнне. Гэта быў патрыятычны чын беларускага сялянства і інтэлігенцыі ў барацьбе за незалежнасць і самастойнасць Беларускай дзяржавы. Слуцкія паўстанцы літаральна за некалькі дзён сфармавалі легальную дэмакратычную ўладу і сваё нацыянальнае войска, выключна з добраахвотнікаў, сялянскай моладзі, якую падтрымлівалі бацькі. Зноў, як гэта часта здаралася ў нашай гісторыі, значна меншае (ды яшчэ і дрэнна ўзброенае) войска цэлы месяц (27 лістапада — 28 снежня 1920 года) мужна змагалася з пераважаючай сілай ворага. Прыклад гераічных слуцкіх ваяроў назаўсёды ўвайшоў у гісторыю вызваленчай барацьбы нашага народа.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

*Жыццё Таварыства*

# «Скарбовы ліст» выдавецтва

Ад самага пачатку дзейнасці ТБМ імя Ф.Скарыны выдавецтва «Юнацтва» з'яўляецца калектыўным сябрам Таварыства. І самая галоўная нашая складка — служэнне роднаму слову, захаванне беларускай дзіцячай кнігі. Юнаму пакаленню адрасуецца сёння і 10-томная «Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры», і 30-томная «Бібліятэка замежнай дзіцячай літаратуры». Супрацоўнікі выдавецтва «Юнацтва» падрыхтуюць у 1996 годзе 30 кніг. Толькі ў серыі «Школьная бібліятэка».

Чакаюць сваіх чытачоў штогоднік гістарычнай літаратуры «Бацькаўшчына», вернуты з небыцця рукапіс рамана Віктара Вальтара «Роджаныя пад Сатурнам» — кніга пра К.Каліноўскага....

А пакуль калектыўны сябар ТБМ імя Ф.Скарыны рыхтуецца да «юнацкага» юбілею: 4 студзеня 1996 года «Юнацтву» спаўняецца 15 гадоў.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**скарбнік першаснай суполкі**
**ТБМ імя Ф.Скарыны.**

Беларускае замежжа

# У Латвіі шануюць беларускасць



Вядома, што ў міжваенны час у краінах Балтыі працавалі беларускія школы і гімназіі, выходзілі кнігі, часопісы і газеты. Яны неслі мясцовым беларусам нацыянальную свядомасць, дапамагалі ў захаванні сваёй мовы, культуры і этнічнай адметнасці. Пасля Другой сусветнай вайны становішча змянілася, і добрая традыцыя надоўга перарвалася. Савецкія «вызваліцелі» знішчылі беларускія культурныя асяродкі ў гэтых краінах (як, дарэчы, асяродкі і іншых народаў) і ўвялі рэжым узмоцненай русіфікацыі ўсяго насельніцтва на акупаванай тэрыторыі, інструментам якой сталі перш-наперш садкі, школы, сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўныя службы і, вядома ж, «рабочыя месцы» грамадзян, якія ўжо не маглі абысціся на працы без ведання расійскай мовы.

Заўважана, што беларусы ўвогуле лёгка паддаюцца асіміляцыі, асабліва, калі яна ажыццяўляецца з боку «братняга народа». Беларуская дыяспара ў Прыбалтыцы не стала выключэннем, памяняўшы родную мову на чужую. Сёння, як вядома, многія тамтэйшыя «браткі-беларусы» змагаюцца за інтарэсы рускамоўнага, а дакладней, расійскага насельніцтва (напрыклад, за іх школы), на той падставе, што і яны, маўляў, ужо рускамоўныя і ім гэта патрэбна. Адраджэнне ў Балтыі беларускіх культурных асяродкаў — школ, выдавецтваў, калектываў мастацкай самадзейнасці, аж да цэнтраў беларускай культуры — стала магчымым пасля таго, як рэгіён набыў статус незалежнасці.



На Сустрэчы кіраўнікоў беларускіх суполак замежжа ў Менску прадстаўнікі ад Летувы, Латвіі і Эстоніі (Ярчак, Целеш, Малафей, Клыга, Астравумава і іншыя) апавядалі, як улады дапамагаюць ім адбудоўваць нацыянальнае жыццё беларускай дыяспары, садзейнічаючы тым самым захаванню беларускай присутнасці на сваёй тэрыторыі. Прыкладам можа стаць Латвія, дзе на сённяшні дзень працуе сем беларускіх суполак, у тым ліку і творчае аб'яднанне беларусаў Балтыі пад назвай «Маю гонар», у якое ўваходзяць не толькі мастакі Латвіі, але і Летувы, Эстоніі, Швецыі, Санкт-Пецярбурга. Дырэктар першай у Латвіі Рыжскай беларускай дзяржаўнай школы (ён жа і кіраўнік суполкі «Маю гонар») мастак Вячка Целеш у гутарцы з карэспандэнтам газеты «Наша слова» паведаміў, што школа працуе другі год — па праграме, якая арыентуецца на еўрапейскую сістэму адукацыі. З першага класа ў ёй выкладаюцца англійская, латышская і беларуская мовы з паглыбленым іх вывучэннем. У класах не больш за 15 дзяцей, што дае магчымасць педагогам ажыццяўляць індывідуальны падыход да кожнага дзіцяці, а вучням максімальна рэалізоўваць свае магчымасці і набываць веды. У школе працуюць кваліфікаваныя настаўнікі: Тамара Станкевіч, Ганна Іванэ, той жа Вячка Целеш і іншыя. Матэрыяльна дапамагаюць школе прадпрымальнікі Янка Кабановіч, які забяспечвае харчаванне вучняў у школе, і Васіль Мельнікаў, які наймае аўтобус для дастаўкі дзяцей у школу. У арганізацыі работы школы дапамагае старшыня Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак», доктар хімічных навук Мікола Ярчак. З боку Беларусі школа атрымлівае дапамогу з Міністэрства адукацыі і навукі, якое дасылае вучням падручнікі, а настаўнікам дае магчымасць павышаць веды на семінарах у Менску. З разуменнем ставяцца да патрэб школы і беларуская амбасада ў Рызе, і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Завяршаючы гутарку, спадар Целеш адзначыў: «Як бачыце, у горадзе Рыга знайшліся людзі, якія не пабаяліся паслаць сваіх дзетак вучыцца ў беларускую школу, нягледзячы нават на ганебны рэферэндум, які прайшоў на Бацькаўшчыне. Я ўпэўнены, што колькі б ні стараліся русіфікатары, яны не ў стане пагасіць нашу любоў да матчынай мовы, перарваць тую ніць, якая звязвае нас з продкамі. Спадзяюся, што беларуская школа ў Латвіі будзе жыць, працаваць і стане той крыніцай, якая надасць моцы ўсяму беларускаму адраджэнню. Дадам, што ў нашай школе вучацца дзеці розных нацыянальнасцей».

**Ірына КРЭНЬ.**

**На здымках:** Першае верасня 1995 года ў першым класе Рыжскай беларускай школы. Заняткі вядзе **Ганна Уладзіславаўна Іванэ.**

Вучні Рыжскай беларускай школы са сваімі настаўнікамі і дырэктарам **Вячкам Целешам.**

У суседзяў

# Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных груповак у 1918—1922 гадах

***Так называецца кніга, выдадзеная ў мінулым годзе ў Варшаве. Прапануем увазе чытачоў рэцэнзію на яе, змешчаную ў альманаху «Białoruskie zeszyty historyczne» № 1 (3) 1995 г.***

Крысціна Гамулка з Гданьска — адна з тых нешматлікіх польскіх гісторыкаў, якія сістэматычна даследуюць палітыку ўрадаў II Рэчы Паспалітай у дачыненні да беларускай меншасці. У мінулым годзе выйшла чарговая яе кніжка «Паміж Польшчай і Расіяй», у якой разглядаецца стаўленне польскіх уладаў, галоўных палітычных партыяў і рухаў да беларускай праблемы ў 1918—1922 гадах — часе стварэння польскай і беларускай дзяржаваў.

Асаблівасцю гэтай працы К.Гамулкі, як і ранейшых яе прац, ёсць разгляд падзей праз прызму дакументаў і літаратуры, створаных палякамі. Таму кніга, па сутнасці, ёсць апісанне тэорый і праграмных канцэпцый у сферы нацыянальнай палітыкі партый Народнай дэмакратыі, Польскай сацыялістычнай партыі, Польскага народнага згуртавання «Пяст», Польскага народнага згуртавання «Вызваленне» ды палітычнага лагера, звязанага з Юзафам Пілсудскім. Некаторыя з гэтых партый у згаданым часе знаходзіліся ля ўлады і мелі магчымасці, хай і абмежаваныя, практычнай рэалізацыі сваіх праграм.

Апісанне стаўлення кіруючых колаў Польшчы да беларусаў і Беларусі адлюстроўваюць урадавыя дакументы — вайсковыя ці паліцыйныя, — якія аўтарка дарэчна выкарыстала ў сваёй працы. Але гэта толькі адзін пункт гледжання на падзеі 1918—1922 гадоў. Іншы іх вобраз ствараўся ў вачах беларусаў, якія пакінулі не менш багатую літаратуру ў выглядзе дакументаў, кніг, публіцыстыкі. Аднак гэтыя крыніцы звестак адлюстраваныя ў разгляданай працы мінімальна і, магчыма, слушна, бо яна прадстаўляе канцэпцыі менавіта польскіх палітыкаў у дачыненні да Беларусі. Таму беларускі пункт гледжання знаходзіцца ў ёй на другім плане.

Разгляданы перыяд часу аўтарка дзеліць на тры часткі. Кожнай прысвечаны асобны раздзел. Першая апісвае праект польскай усходняй палітыкі, сфармуляваны галоўнымі палітычнымі групоўкамі да часу ўсталявання польскай дзяржаўнасці. Наступ Пілсудскага ў 1919 годзе ды стварэнне ў снежні гэтага года Рады БНР скончвае, на погляд К.Гамулкі, перыяд палітыкі, калі беларускі народ выступаў як суб'ект палітыкі і ствараў падмурак сваёй дзяржаўнасці. Другі перыяд скончыўся падпісаннем рыжскага трактату, у выніку чаго зніклі апошнія спадзяванні на стварэнне хаця б беларускай аўтаноміі ў сферы ўплыву Польшчы. Апошні раздзел кнігі займае апісанне разгортвання асіміляцыйных працэсаў і, з другога боку, — роспачных спробаў беларускай інтэлігенцыі дамагчыся хаця б прызнання польскімі ўладамі непадобнасці, асобнасці беларускай культуры.

Кніга «Паміж Польшчай і Расіяй» сярод мноства навуковых прац, прысвечаных беларускай праблеме ў польскай палітыцы, адрозніваецца аб'ектыўнасцю падчас разгляду нават самых балючых пытанняў. Крысціна Гамулка без недамовак піша аб выключнай слабасці беларускага руху, роўна як і аб узмацненні нацыяналістычных тэндэнцый польскага боку. Пасля стварэння палякамі ўласнай дзяржавы федэралісцкія ідэі ў іхнім асяроддзі пачалі траціць колішнюю папулярнасць. Стаўшы гаспадарамі, палякі абралі шлях паланізацыі, пазбавіўшы тым самым ілюзіяў нават самых паланафільных беларускіх дзеячаў. Дыскусія паміж польскімі палітычнымі групоўкамі вялася толькі вакол праблемы, які спосаб асіміляцыі ўжываць інтэнсіўней — нацыянальны ці дзяржаўны. У першым выпадку гэта азначала б забарону беларускага школьніцтва, абмежаванне магчымасцей стварэння беларусамі гаспадарчых, культурных і палітычных арганізацый. У другім — структуры гэтыя мусілі б служыць мацаванню прывязанасці да польскай дзяржавы. Канчатковая мэта абедзвюх гэтых канцэпцый была, аднак, агульнай. Федэралісты, якія ў 1926 годзе атрымалі поўную ўладу ў Польшчы, за дзесяць гадоў кіравання практычна ажыццявілі ўсе ідэі польскіх нацыяналістаў. Бо ні ПСП, ні ПНЗ «Вызваленне», а ні г.зв. бельведэрскі (прэзідэнцкі — «НС») лагер не трактавалі сур'ёзна сваіх праграм у дачыненні да беларусаў. З дакументаў, змешчаных у працы К.Гамулкі, адназначна вынікае: усе ліберальныя праграмы ў сферы нацыянальнай палітыкі былі забытыя, як толькі іх стваральнікі пачалі рэальна ўплываць на вырашэнне пытанняў дзяржаўнага кіравання. Уражваюць, напрыклад, сведчанні аб рэакцыі польскіх палітычных партыяў на разгон польскімі ўладамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (с. 89—90). Дзеянні ўладаў не асудзіў ніхто. Адсюль можна зрабіць выснову: не існавала палітычных асяродкаў, зацікаўленых у стварэнні федэратыўнай адміністрацыйнай беларускай адзінкі, нават з абмежаваным суверэнітэтам, у складзе Польшчы. Затое да федэралісцкіх канцэпцый вярнуліся ў час бальшавіцкага наступу ўлетку 1920 года, калі не было магчымасці ўплываць на сітуацыю ў Беларусі.

Кніга К.Гамулкі, нягледзячы на крытычны падыход яе аўтаркі да крынічных матэрыялаў, мае пэўныя недакладнасці. Датычыць гэта пераважна частак, у якіх гаворыцца аб стане беларускага руху. Напрыклад, аўтарка прымае за праўду інфармацыю II Аддзела польскага Генеральнага штаба пра колькасць беларускіх партызанаў, што ваявалі ў групах, належных да «Зялёнога дуба», дзе падаецца лічба каля 6000 асобаў. Гэта была б значная сіла, існаванне якой было б адлюстравана ў беларускіх дакументах. Але з гэтага боку няма сведчанняў наяўнасці гэткай колькасці партызан, што ваявалі з Чырвонай Арміяй.

Тым не менш, кніга К.Гамулкі належыць да найбольш каштоўных працаў, што датычаць бачання Беларусі і беларусаў палякамі.

**Яўген МІРАНОВІЧ (Польшча).**

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## Пачутае душою

*Яно жывое. У ім усё рухаецца:*
*дружыны, хмары, травы, вятры,*
*думы, птушкі...*

І.Шклярэўскі.

Сапраўды, кожны, хто ўдумліва чытаў выдатны, незвычайны па сіле ўздзеяння і вобразна-стылістычным увасабленні гістарычных падзей твор прамоўніцкага майстэрства «Слова пра паход Ігаравы...», зразумее вынесеныя ў эпіграф радкі аднаго з шматлікіх яго перакладчыкаў на сучасныя мовы. Перакладалі напісаное ў XII стагоддзі невядомым аўтарам «Слова...» (у арыгінале «Слово об пълку Игоревѣ...») і беларускія пісьменнікі Я.Купала, М.Багдановіч, М.Гарэцкі, Р.Барадулін, якіх прыцягвала майстэрства вобразнага і эмацыянальнага выказвання.

У гэтым несмяротным шэдэўры, 800-годдзе якога адзначалася ўсёй сусветнай супольнасцю, зніталіся адзнакі аратарскай, апавядальнай прозы, гістарычнай песні, старажытнай народнай паэзіі, з якой найперш, паводле даследчыкаў, напрыклад, Андрэя Робінсана, звязана вобразная анімізацыя (ажыўленне) прыроды, прамое суаднесенне яе з чалавечым жыццём. Паказальным з'яўляецца і тое, што аўтар ведаў Беларусь, бо дакладна адлюстроўвае не толькі гістарычныя падзеі, але і яе геапалітычныя, этнаграфічныя асаблівасці. У канцы XIX стагоддзя вядомы этнограф А.Кіркор, указваючы на памылковае ўяўленне пра знаходжанне і назву згаданай у «Слове...» ракі Нямігі, іншых тапанімічных рэалій Беларусі Карамзіным, Гербелем, Тацішчавым, адзначаў: «...Знакаміты творца песні ведаў беларускую Нямігу, беларускі Менск. Ён быў знаёмы і з іншымі старажытнымі паселішчамі гэтай краіны... Паэт знаёмы не з адными гарадамі Беларусі, ён велічае полацкую «Сафію» (Сафійскую царкву), але ён ведае і старых багоў, што жылі ў памяці народа, хаця ўжо і хрысціянскага».

Апавяданне пра няўдалы паход на полаўцаў ноўгарад-северскага князя Ігара мае значна шырэйшы за гэтую падзею культурна-гістарычны абсяг. Прачулае, эмацыянальнае слова творцы сягае да іншых выдатных гістарычных асоб (полацкага князя Усяслава Чарадзея), узнаўляе ранейшыя падзеі (бітву на Нямізе). Гістарычна-апісальны і вобразна-выяўленчы планы ў гэтым творы пераплятаюцца, ствараюць яго жывое дыханне, дынамізм, рух.

Вядомы па іншых тагачасных творах, у прыватнасці «Аповесці мінулых гадоў», пра якую была папярэдняя размова, гістарычныя звесткі ў «Слове...» пададзены з усім майстэрствам вобразнага апісання — праз яркія, надзвычайна выразныя дэталі, народжаныя метафарызацыяй.

Метафарызацыя — пераносна-вобразнае выкарыстанне слоў для абазначэння ўнутрана ці знешне суадносных з імі рэалій — як стылістычны сродак вядомы з антычнасці. Метафара, паводле Арыстоцеля, фарміруе стыль, з'яўляецца адзнакай таленту. Разам з тым, моўнай сістэме ўвогуле характэрна метафарычнасць, якую ў прывычным карыстанні словам часам нават не заўважаюць: час бяжыць, вясна ідзе, ручка дзвярэй, ножка крэсла і інш.

Метафарычнасць у «Слове...» ствараецца талентам яго аўтара, які не проста адухаўляе прыроду, але робіць яе выразніцай сваіх пачуццяў, надзяляе прарочкімі ўласцівасцямі, напрыклад, прадчуваннем бяды. Метафарамі з'яўляюцца дзеясловы пачуццяў, руху, інтэлектуальнай дзейнасці, уласцівыя асобе, спалучаныя з найменнямі разнастайных прыродных рэалій: *Солнце ему тьмою путь* **заступаше** (заступіла); *Мъгла поля* **покрыла**; *земля* **тутнет** (стогне), *древо с тугою к земли* **преклонилось**.

Акрамя адзіночных метафар, пераноснае значэнне можа ствараецца ланцужкамі метафар, ахопліваючы ўсё апісанне. Прыкладам суцэльнай метафарызацыі з'яўляецца вобразнае адлюстраванне бітвы на Нямізе, якая пададзена праз апісанне працы хлебароба, калі спецыфічныя тэматычныя словы спалучаны з нехарактэрнымі для такой сферы дзеяння абазначэннямі: *«На Немизѣ снопы стелют головами, молотят чепи харалужными* [цапамі сталёвымі]; *на тоцѣ живот кладут* [жыццё кладуць на таку], *вѣют* [веюць] *душу от тѣла...»*

Метафарызацыя выкарыстана і ў сваёй разнавіднасці — метаніміі (перанясенні назвы з аднаго прадмета на другі паводле іх сумежнасці). Напрыклад, Сафійская царква называецца Сафія — паводле ўласнага імя: *Тому в Полотскѣ* [у Полацку] *позвониша заутреню рано у святыя* **Софеи** *в колоколы* [рана званы пазванілі к завутрані ў святой Сафіі], *а он в Кыевѣ звон слыша* [чуў].

У прыведзеным урыўку апісаны незвычайныя здольнасці Усяслава Чарадзея, перададзеныя праз гіпербалізацыю (мастацкае перавелічэнне). Пры гэтым падкрэсліваецца і глыбокая прывязанасць князя да родных мясцін, яго нястрымнае імкненне вярнуцца на радзіму. Вытокі гіпербалізацыі (здольнасць Усяслава Чарадзея з Кіева чуць званы полацкай царквы) тонка раскрывае вядомы гісторык У.Ігнатоўскі: «Не дарма гаворыць пясняр слова аб Ігаравым палку, што Усяслаў, седзячы ў турме, чуе званы... у Полацку. Яго цягнула ў Полаччыну».

Як бачым, стылістычныя сродкі — метафары, гіпербала — робяць выказванне слоўным мастацтвам, эстэтызуюць рэчаіснасць, даюць прыклад творчага, вобразнага выказвання, вучаць заўважаць і разумець прыгажосць формы, глыбіню зместу, каб мы адчулі жывое слова...

ACADEMIA «NS»

Культура мовы

*Павал СЦЯЦКО*

# Карыстацца сваімі словамі

**Быць (знаходзіцца) у шлюбе** — а не **састаяць у шлюбе**. «Да адзінокіх маці, на якіх распаўсюджваюцца гарантыі, прадугледжаныя артыкулам 170 КЗАП, трэба адносіць жанчын, якія **не састаяць у шлюбе** і маюць дзяцей, у актавым запісе аб нараджэнні якіх запіс пра бацьку зроблены ва ўстаноўленым парадку са слоў маці, а таксама ўдоў і разведзеных, што **не састаяць у шлюбе**» («Настаўніцкая газета» за 22 лістапада 1995 года. Рубрыка «НГ — інфарм. Пытанне — адказ.»).

Слова «састаяць» не фіксуе ніводны з беларускіх слоўнікаў. Гэта расійскае слова. У беларускай мове яму адпавядаюць свае словы. Так, «Русско-белорусский словарь» 1993 года падае: «Состоять (быть, находиться в каком-л. состоянии, положении) знаходзіцца, быць: состоять в браке — знаходзіцца (быць) у шлюбе (т. 3, с. 418).

Як бачым, перакладчык расійскага тэксту не справіўся з сваёй задачай: ён замяніў толькі адно слова ў словазлучэнні «состоять в браке» — апошняе, а першае так і засталося без перакладу. І пайшло гуляць па старонках, як ні крыўдна, газеты для настаўнікаў гэтае «састаяць».

**Выкрасці (украсці) і выкрадаць, выкраданне** (машыны) — а не **ўгнаць, уганяць і ўгон** (машыны). «Магчыма, расплата за адзін з апошніх крадзяжоў аўтамашыны ў Магілёве паслужыць урокам аматарам пакатацца на крадзеных «калёсах». Саўдзельнік злачынства прызнаўся, што ў тую ноч яны хацелі **ўгнаць** другую машыну, але ў ёй не завёўся рухавік» («Народная газета». 23.02.1995 г.).

Згаданы «Русско-белорусский словарь» 1993 года (т. 3, сс. 579, 582) дае наступны пераклад на беларускую мову расійскіх слоў **угнать, угонять, угон**. «**Угнать** сов. 1. *пагнаць*; 2. (похитить) разг. **украсці** (с. 579); **угонять** несов. **гнаць**; угонять скот в поле — гнаць (выганяць) жывёлу ў поле; 3. (похищать) разг. **красці**; **угон** м. 1. (действие) **выган, адгон**; 2. (похищение) **выкраданне**; (кража) крадзёж; **угонщик — загоншчык, злодзей** (машын) (с. 582).»

Як бачым, беларуская мова мае свае дакладныя адпаведнікі расійскіх. «Выроўніванне беларускай лексікі пад рускую — заганная з'ява», — справядліва зазначыў Пётра Садоўскі ў рэцэнзіі на «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», апублікаванай у часопісе «Полымя» № 5 за 1986 год пад злабадзённай назваю «Час адуму».

Такое «выроўніванне» беларускіх слоў пад расійскія вельмі часта можна чуць па Беларускім радыё і тэлебачанні. Прыкладам, 5 красавіка 1995 года па тэлебачанні з прычыны смерці Пімена Панчанкі з вуснаў дыктара слухачы пачулі: «...**ўшоў** ад нас... паэт...» Замест беларускага **адышоў**.

Тое, што ў расійскай мове перадаецца дзеясловамі з прыстаўкаю **у-**, у беларускай мове найчасцей выяўляецца іншымі прыстаўкамі. Мы ўжо бачылі гэта і ў згаданых беларускіх адпаведніках расійскіх слоў **угнать, угонять, угон**.

У друку, па радыё і тэлебачанні вельмі часта спатыкаешся і на небеларускім слове **уступіць** (месца). Прыстаўка **у-** не мае ў беларускай мове таго шырокага выкарыстання і значэння, як у расійскай. Найчасцей яна надае значэнне «накіраванасць дзеяння ўнутр прадмета або асяроддзя»: убіць, увезці, уехаць, уплесці (ТСБМ, т. 5. Кніга 1, с. 591). У расійскай мове прыстаўка **у-** мае якраз найбольш пашыранае, адваротнае беларускаму прэфіксу **у-** значэнне, а менавіта: «накіраванасць дзеяння ад чаго-небудзь, аддаленне, знішчэнне, знікненне чаго-н.»: убежать, улететь, ускокать, угечь. (Словарь русского языка. В 4-хтомах. Изд. 2-е, М., 1984, т. 4, с. 442). Па-беларуску «ўступіць» найперш усведамляецца як «стаць нагою ў што-небудзь»: уступіць у лужыну (у гразь). А вось з значэннем «вызваліць месца» (для каго) — **уступіць** небеларускае слова. Штучнасць яго добра адчуваў Якуб Колас і таму не карыстаўся ім: «Арцём садзіцца так, каб Амелька не бачыў яго ў працэсе творчасці, **пераступае** такім чынам Амельку і лепшае месца і чарніла, узычанае Бруяком» («Тулы, на Нёман»).

Расійскае «**уступить**, (кому-чему в чём)» слоўнікі перакладаюць і беларускімі адпаведнікамі з прыстаўкамі **са-** і **пера-**: саступіць, пераступіць. Гэта якраз адпавядае словатворчай заканамернасці беларускай мовы. На месцы **уступіць** выкарыстоўваюцца і іншыя словы: **прадаць** тавар за паўцаны; **даць** дарогу, **саступіць** з дарогі, **аддаць** пальму першынства і інш.

На жаль, слоўнікі 50—80-х гадоў дзеля «зліцця моваў» адмовіліся (ці іх складальнікаў прымусілі гэта зрабіць) ад беларускіх слоў і поўнасцю «выраўнялі» беларускія дзеясловы з расійскімі. Так, двухтомны «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй К.Крапівы ўжо не бачыць розніцы паміж дзвюма мовамі ў беларусізацыі дзеясловаў **уступіць — уступіць** (гл. т. 2, Мн., 1989, с. 628). Гэта і вядзе да занядбання роднага слова.

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЛА́КСА** размоўнае (пра таго, хто часта плача без уважлівай прычыны), **ПЛАКСУ́Н** разм. (толькі пра асобу мужчынскага полу) *[Стары:] — А вось гэты плаксун, — ён кіўнуў у бок калыскі, — са мной застаўся* («Звязда»), **ПЛАКСУ́ХА** разм. (толькі пра асобу жаночага полу) *Хопіць плакаць, плаксуха малая. А толькі, як ні рвецца бярэзінка ў вышыню, кволае вецейка яе нізка гнецца да долу. Яна плаксухай* [у пераносным ужыв.] *стаіць над магілай* (Гурскі), **РУ́МЗА** разм., **ПІСКУ́Н** разм. (толькі пра асобу мужчынскага полу) *Спрытна чарачкі куляюць ў чэсць малога піскуна* (Колас), **ПІСКУ́ХА** разм. (толькі пра асобу жаночага полу) ...*Заставіць калыхаць маленькую Волечку. А Волечка такая піскуха!* (Шашкоў).

**Плакса.** Як ужо адзначалася раней, англійшчына параўнальна рэдка мае асобныя адзінкі для назвы асоб мужчынскага і жаночага полу з аднолькавай семантыкай (параўнай бел. **плаксун, плаксуха**). Таму і англ. **crybaby** і **sniveller** могуць азначаць асоб любога полу. Пры гэтым **crybaby** ужываецца часцей, асабліва ў адносінах да дзяцей.

**ПЛАСКАГО́Р'Е** (вялікае ўзвышша з роўнай або хвалістай паверхняй) *Далей шасэ адыходзіла ўправа на пласкагор'е* (Самуйлёнак), **ПЛАТО́** кніжнае (невысокае пласкагор'е) *Тут, далей ад ракі, на шырокім горным плато, будуюцца цэлыя ансамблі пяціпавярховых гмахаў новых жылых раёнаў* (В.Вольскі).

**Пласкагор'е.** У англійскім сінанімічным радзе таксама толькі два назоўнікі: **plateau** і **tableland**. Як бачым, першы з іх супадае з бел. **плато**, але ў адрозненне ад беларушчыны, англ. **plateau**, хоць і быў пазычаны з французскай мовы, з'яўляецца цяпер агульнаўжывальным словам, тады як яго сінонім **tableland** сустракаецца радзей.

Можна дадаць, што гэтае слова і бел. **пласкагор'е** сходныя па сваёй структуры. Абодва яны з'яўляюцца складанымі словамі, хоць і з рознымі кампанентамі (англ. tableland = стол + зямля).

1. **ПЛАТФО́РМА** (пляцоўка на чыгуначнай станцыі, каля якой спыняюцца цягнікі) *Тым часам падыходзіў таварны поезд. Сухавараў і настаўнік выйшлі на платформу* (Колас), **ПЕРО́Н** (пляцоўка для пасажырскіх цягнікоў) *Паходня сышоў на перон і адразу ж трапіў у бурлівы людскі паток, які імкнуў праз нейкія абломкі сцен і часовыя збудаванні* (Хадкевіч), **ДЭБАРКАДЭ́Р** устарэлае *На станцыі — на пероне, на дэбаркадэры і паміж рэек пахаджвалі чыгуначныя жандары, гарадавыя* (Мурашка).

2. **ПЛАТФО́РМА** (таварны вагон з невысокімі бартамі без даху) *Падышоў і гружаны цягнік: жалезныя платформы з гарматамі, танкамі, некалькі закрытых вагонаў, з дзесятак цыстэрнаў* (Лынькоў), **ПЛЯЦО́ЎКА** *З выёмкі выходзіць цягнік-паравоз і некалькі пляцовак* (Дамашэвіч).

**Платформа.** У англійшчыне назоўнік **platform** не мае сінонімаў у азначаным сэнсе, але шырока ўжываецца ў шэрагу іншых значэнняў.

**ПЛА́ЎНЫ** (пра рухі, жэсты, паходку і пад.: роўны, без рэзкіх пераходаў, не таропкі) *Саша плаўнаю хадою пайшла да дзвярэй* (Пестрак). *Здавалася, што карагод анёлаў... кружыўся каля мяне ў плаўным танцы* (Рамановіч), **МЯ́ККІ** *З-пад прыкрытых вейкаў назірала за Лізай. Непрыгожая, але нешта прыемнае ў ёй ёсць. Рухі мяккія* (Пішчыкава), **ПЛАСТЫ́ЧНЫ** *Ён [Язэп Пушча] чытаў плаўныя строфы, суправаджаючы мяккую рытміку жэстамі свае пластычнае рукі* (Скрыган), **ЭЛАСТЫ́ЧНЫ** *Эластычныя рухі. Павольная, эластычная ў сваім праяўленні сутарга прайшла па ягоным целе, і чалавек распластаўся на камені, адкінуўшы руку з плакатам убок* (Мікуліч).

**Плаўны.** Адпаведны англ. сінанімічны рад наступны: **smooth, graceful, flowing**, якія складаецца амаль поўнасцю з спрадвечных элементаў (smooth, flowing і суфікс -ful у прыметніку graceful).

Жывое слова

# ВАРЭЙКА

Прыпамінаючы сваё маленства, згадваю шмат такіх слоў, якія я зараз амаль не чую, не сустракаю. Вось хаця б тую «варэйку».

Варэйка!... Этымалогія слова, як бачым, празрыстая, выразная. Няцяжка здагадацца, што гаворка ідзе пра штосьці звязанае з варывам, з з'яваю варкі. Так яно і ёсць на самай справе. «Варэйкай» у нас называлі і дзе-нідзе і цяпер яшчэ называюць самы звычайны «гаршчок». ...Варыць — вярэйка.

Ці трэба пытацца, якому, спазнаўшы ў смак філалогіі і логікі рэчаў, аддаў бы перавагу? Вядома, — «варэйцы», бо яно з аднаго і таго ж слоўнікавага гнязда, што і *вар, варыва, варка*... Без усялякага тлумачэння зразумелае кожнаму. Ад гэтага слова дыхае якімсь цяплом. Яно мае і якісь смак. Учытайцеся, услухайцеся: ва-рэй-ка! За гэтым словам бачыш і чуеш і жар полымя ў печы, і прыемнае, гутарлівае булькатанне варыва: буль-буль-буль! Адным словам, «варэйка» яна і ёсць варэйка.

Што ні кажыце, чуйныя, вельмі чуйныя былі нашы продкі да слова. І логіка ў іх была ясная, празрыстая, наша, славянская. Блытаніны моўнай яны не любілі, не дазвалялі. Усе словы стваралі па сваіх, блізкіх іхнім разуменням законах.

Існаваў у нас з гэтым словам і моўны каламбур: «варэйка-яўрэйка». Ён нічога не азначаў. Гаварыўся проста так, дзеля якойсь такой моўнай ці псіхалагічнай гімнастыкі: «варэйка-яўрэйка». Найчасцей, калі нечым былі незадаволеныя, той жа варэйкай: скажам, ці то яна трэскалася, ці вышчэрбвалася. Гэта гучала нібыта як: «Ах, ты доля-нядоля!». І толькі ўсяго.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

